# Тыдзень Капітана Тахакі



Панядзелак - дзень цяжкі.
Пячы будзем піражкі.

Надвячоркам
у аўторак
Нахапаем
з неба зорак.



Надыходзіць серада -
З неба крапае вада.




У чацвер -
вось гэта дзіва! -
Мы чытаем
«Нашу Ніву».

А у пятніцу заўжды
Мы на сонейку
ляжым.



Рана ранкам у суботу
Ўзняцца з ложку нам лянота.

Ды затое
мы ў нядзелю
Будзем лётаць
на арэлях!



# Вясёлыя музыкі

Запілікае гармонік -
Скачам, не шкадуем штонік!





На дудзе мы вам зайграем -
Эх, патанчым, паспяваем!

Будзем грукаць у тамтам:
Бум-бам-бум! Тарам-там-там!



Правядзём смыком
па скрыпцы -
Хай вам добры сон
прысніцца!



# На кухні



Вы чаго равяце?
Чаго слёзы ліяце?



Мы абед рабілі:
Памідоры мылі,

Рэзалі гуркі
Дралі буракі,

А як чысцілі цыбулю,
Вой жа, слёзак мы глынулі!



# Дом з прывідам

Аднойчы
Капітан Танака
і яго сябар Гузік
прачыталі ў кнізе
пра скарбы,
схаваныя ў доме
з прывідамі.











Ну што, зойдзем?


Сябры патрапілі ў доўгі калідор. На сценах віселі карціны.


Па-мойму, ніякіх прывідаў тут няма!


Але раптам...
У-у-у!


А-а-а!


Хо-хо-хо!
Ратуйце!
Бяжым адсюль!


У-у-у!


А-а-а!
Бяжым адсюль!


Хі-хі-хі!




А я проста пажартаваў!


Але тут на сцяне з'явіўся цень...
А-а-а! Гіганцкі павук!


Ратуйце!


Ха-ха-ха!
Такі вялікі, а спужаўся ценю ад маленькага павучка!


Канец!

# Бульба і жук

Бульба пад зямлёй спала,
Як пшаніцу прадала,





Ухапіўся ён зубамі,
Злосна варухнуў вусамі,



Але вырашыў ёй лісце
Каларадскі жук пагрызці.



Зжэр бы бульбу
з каранём,
Каб не стрэўся
з вераб'ём.



Верабей жука скляваў,
Бульбу нашу ўратаваў.



Нас вусамі не спужаеш:
Будзеш лезці - атрымаеш!



Компас - у заплечнік,
І кацёл, канечне.



Мы збіраемся ў паход,
Робім з сырам бутэрброд.

# Вандроўка



А яшчэ - намёты,
Каб не мерзнуць потым.



І сякеру, і вяроўку
Мы захопім у вандроўку.







# Падводныя прыгоды

Аднойчы Капітан Танака знайшоў прыгожую марскую ракавіну. І захацелася яму накіравацца ў марское падарожжа.






Капітан Танака паклікаў сваіх сяброў.







МІНУЎ МЕСЯЦ...






Сябры паплылі па рацэ да мора.

Капітан Танака і сябры доўга плылі па рэчцы...












Капітан Танака паглядзеў у бінокль.



і вось што ён пабачыў:

































Сябры вырашылі забраць пірацкі скарб на падводную лодку.



















# Барадаты дамавік



Барадаты дамавік
Загубіў свой чаравік.



Пашукаў на ганку -
Выпацкаў фіранку.





Паглядзеў за печкай -
І рассыпаў грэчку.

У куфэрак зазірнуў -
Жменю пылу праглынуў.



Пакуль справы ўсе зрабіў,
Ключ ад хаты загубіў!



# Вось дык футбол!



Мы гулялі ў футбол,
У вакно забілі гол!









А каб лік быў роўны,
Пацэлілі у лядоўню!









Мы б далей гулялі,
Каб мяч не адабралі!

# Цмок і Яська



На Палессі у балоце
Цмок хаваецца ў чароце.



З'еў бярозку на сняданак,
Струшчыў дуб, як абаранак.



Праляцеў над вёскай цмок -
Пахаваліся, хто змог!





Толькі Яська не спужаўся
Ды на цмоку пакатаўся!

# Дыназаўр у кубачку

Доўга ў ложку
спаць не буду,

Лепш пайду
на рыбу з вудай.

Эх, вудзільна гнецца!
Можа, карп бярэцца?

Гэта што за цуд такі?
Ці ты з мора, ці з ракі?

Відовішча
нязвыклае -
Дыназаўрык
з ікламі!

Ляці ў неба, сябручок!
Не трапляйся на кручок!

# Падарожжа па Беларусі

Запытаўся ў жабкі бусел:
«Ты чаго сумуеш?
Пракачу па Беларусі –
Эх, не пашкадуеш!»

Выляцелі зь Белавежы,
Рушылі да Менску,

Потым да усходніх межаў,
Ледзь не да Смаленску.

Край наш родны аглядалі –
Шмат у шм вабнотаў...
Ды найбольш упадабалі
Роднае балота!






Штось надвор'е, як на грэх:
Ці то дождж, ці то снег...

Штось надвор'е, як на злосць:
Можа, ў небе дзірка ёсць?

Зробім мы усё як трэба
Ды адрамантуем неба,

Каб нам сонейка заззяла
Ды зямельку сагравала!











